Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 23 (74). Вільня, Серада 9 Сакавіка 1927 г. Год III

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).

Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.

Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:

на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.

Для заграніцы удвая даражэй.

Аплата надрукаваньня залежыць ад рэдакцыі

ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Доля самаўрадаў.

Адначасна з працаю соймавай канстытуцыйнай камісіі ў мэтах шуканьня спосабаў як загарадзіць беларускаму і ўкраінскаму прадстаўніцтву дарогу ў Сойм і Сэнат, бурліць праца і ў адміністрацыйнай камісіі над тым, каб ня даць нам самаўрадаў. Як ведама, дагэтуль мы ня мелі самаўраду, бо пераважна, што нас найболей абходзе — валасны самаўрад або быў вызначаны старастаю, або, калі і выбраны, дык час яго паўнамоцтва ўжо даўно кончыўся. Новыя выбары не вызначаюцца, што матывіруецца, быццам, адсутнасьцю самаўрадавага закону. Урад не сьпяшаецца з тым, каб самаўрадавыя законы скарэй былі выданы, а Сойм у сваёй адміністрацыйнай камісіі ніяк ня можа развалкаваць праектаў гэтых законаў. У чым-жа тут рэч? Чаму языковыя ўставы, як „падарунак“ для нацыянальных меншасьцяў былі ў такім пасьпеху выдаваны, а самаўрадавых законаў ня могуць ніяк выпусьціць з мураў Сойму?

— Бо польскія соймавыя клюбы імкнуцца да таго, каб у самаўрадах панавалі Палякі, а правіца, дык мала гэтага,—жадае, каб у самаўрадах панавалі Палякі ды, выключна багатыя клясы. На грунце гэтага ў іх няма згоды, а дзеля таго, ніяк ня могуць у працягу чатырох гадоў прыняць самаўрадавых законаў.

Перадусім праектуецца, каб войт уладаў польскай мовай у гутарцы і на пісьме. Дык гэтага ўжо даволі, каб ня быць Беларусу войтам; гэта—ясна для кожнага з нас.

Усё гэта праектуецца дзеля таго, каб без ніякага скандалу, быццам на законнай аснове, не дапусьціць нас да самаўраду, ды каб па цяперашняму так і пакінуць яго, ў руках панкоў, асаднікаў ды розных прыблудаў да нашых берагоў.

І вось, разумеючы гэта, час ад часу, парушалася справа ў Сойме, але канчалася на нічым, бо не находзілася гэтакае польскае галавы, якая-бы магла найці спосаб недапушчэньня Беларусаў і Украінцаў да самаўраду. Цяпер ў гэтай соймавай адміністрацыйнай камісіі, ёсьць аж шэсьць праектаў аб самаўрадах, з якімі не згаджаецца ўрад. Тут іначай, як у справе зьмены выбарнага закону да Сойму і Сэнату, магчыма, што ўрад выступіць са сваім уласным праектам. Якія-б ня былі розьніцы між урадавым праектам а тымі соймавымі, у адным будуць яны згаджацца, а іменна: будуць імкнуцца не дапусьціць Беларусаў да самаўрадаў.

Вось у соймавых праектах далей ёсьць пункт, які гавора, што права да выбараў будзе мець той, у каго ёсьць нярухомая маемасьць ды хто плаціць безпасярэднія падаткі. Знача работнікі і дворныя парабкі зусім выключаюцца ад права да голасу. Апрача гэтага праектуецца, таму выбаршчыку, які мае большую маемасьць, даць некалькі галасоў, залежна ад вялікасьці маемасьці, а так сама дабавіць і на навуковы цэнз. Дык усё гэта якраз абшарнікам на руку, бо яны і багатыя і вучоныя. Таксама праектуецца, надаць большую колькасьць галасоў таму, хто служыў ахвотнікам у польскім войску.

Дык вось пытаньне: хто ў нас мае вялікую маемасьць? — Паляк. Хто служыў ахвотнікам у польскім войску? — Паляк. Хто ўладае польскай мовай? — Паляк. Беларус нават каб і ўладаў, то калі ён будзе ня мілы старасьце, дык заўсёды будзе прызнана за мала граматнага ў польскай мове.

Робячы гэтак, Палякі пэўна могуць выціснуць нас з самаўрадаў кожны раз і ў далейшым, як рабілі гэта да гэтага часу, але, пры гэтым заклікаць нас да леяльнасьці і жадаць дзяржаўнага патрыятызму павінна быць ім сорамна.

Проці ўсякіх замахаў на нашыя правы, мы на гэтым месцы катэгарычна пратэстуем. Выбары да самаўрадаў павінна быць прапарцыянальна да жыхарства самаўрадавай тэрыторыяльнай адзінкі і адбывацца без ніякіх падзелаў на курыі.

*Ст. Рубель.*

## Карэспадэнцыя з Радавай Беларусі.*)

Беларусь — земляробская старонка; фабрычна-заводзкая прамысловасьць разьвіта блага ды і то, галоўным чынам толькі дробная, перапрацоўваючая тутэйшы вяскова-гаспадарчы сыры матэрыял. Пераважную большасьць жыхарства складае сялянства — каля 88'5 проц.; на мястовае жыхарства прыходзіцца ўсяго 14,5 проц., з якіх работніцкая кляса, беларускі пралетарыят мае толькі 2,4 проц.

Большасьць фабрык, істнаваўшых на Беларусі да вайны — разбурана і знаходзіцца ў бязчыннасьці. На іх направу патрэбны вялікія сродкі, якіх у распараджэньні бальшавіцка-камісарскага ўраду, нацыяналізаваўшага ўсю прамысловасьць, ня маецца. Усяго ў БСРР ёсьць 202 фабрычна-заводскіх прадпрыемствы, у якіх працуе 17.026 работнікаў. З іх: дзяржаўных нацыялізаваных прадпрыемстваў 137 (з агульнай лічбай занятых там работнікаў 85 проц.); коопэратыўна арэндаваных 5 (з 1,2 проц. раб.); коопэратыўных уласных 5 (з 1,3 проц. раб.); прыватных арэндаваных 24 (з 2,5 проц. раб.); прыватных уласных 9 (з 1,2 проц. раб.) і працоўных аб'яданьняў 22 (з 8,6 проц. раб.). Агульная вытворства усіх прадпрыемстваў дасягае 60 проц. даваеннага часу.

Без рагатае скаціны ёсьць 13,7 проц. а бязконных 69,7 проц. гаспадароў. Да вайны на 100 дзесяцін ворнага поля прыходзілася 88,2 галавы рабочае і крупнае рагатае скаціны, у 1926 годзе ўсяго толькі 74 галовы. Гэта паказвае, што беларуская сялянская гаспадарка ўсё яшчэ ня можа направіцца ад тых бедаў, якія ёй прычыніла імпэрыялістычная вайна.

У сучаснасьці ў БСРР істнуе вялікая сялянская перанасяленнасьць. У той час калі ў РСФСС на адну сялянскую гаспадарку прыпадае ў сярэднім 13,6 дзесяцін прыдатнай зямлі, а па ўсяму СССР 12 дзес., дык у БСРР толькі 8,7 дзес. Калі ўзяць пад увагу той факт, што сярэдняя норма сялянскае гаспадаркі зямельным аддзелам устаноўляна ў 11,8 дзес., дык у БСРР сярэдняя сялянская гаспадарка мае меней гэтай нормы на 35,6 проц. Тлумачыцца гэта тым, што на Беларусі раней, яшчэ ў дарэвалюцыйныя часы, была большая гушчыня насяленьня, чым у другіх частках быўшае Расейскае імпэрыі, а галоўнае — калёсальных вымераў плошча зямлі не знаходзіцца ў вясковагаспадарчым карыстаньні. З усяе плошчы зямлі — пад лесам знаходзіцца 30,3 проц. і не прыгоднай (балоты і інш.), патрабуючай мэліярацыі 10,3 проц.; прыдатнай зямлі вяскова-гаспадарчага карыстаньня ёсьць толькі 59,4 проц.

Да рэвалюцыі ў непрацоўным карыстаньні (у абшарнікаў, дзяржаўнай, манастырскай і інш.) знаходзілася 27,2 проц. усей плошчы прыдатнай да вясковага гаспадарства зямлі. Адно з галоўных заваяваньняў рэвалюцыі—амаль-што ўся зямля перайшла ў працоўнае карыстаньне сялянства. У непрацоўным карыстаньні знаходзіцца цяпер 3,7 проц. усей плошы зямлі ў форме дзяржаўнай уласнасьці — пад савецкімі гаспадаркамі, паказнымі і іншымі.

У рэзультаце рэвалюцыі агульная плошча зямлі працоўнага карыстаньня павялічылася на 32,3 проц. (сюды ўходзіць частка зямель, якія раней залічаліся да няпрыгодных — лугі пасьбішча і інш.). Але-ж гэты, як можа здавацца, значны прырост зямлі зусім не здаволіў зямельнага голаду беларускага сялянства. У сярэднім гэты прыспор выяўляецца ў наступных працэнтных лічбах: на адну гаспадарку прыспор даў 0,05 дзес. і на адну душу — 0,22 дзес. Чаму-ж гэтакі нязначны прыспор? А гэта дзеля таго гэтак сталася, што большая частка абшарнічых зямель безпасярэдня перайшла ў рукі тых парабкоў, якія фактычна гэтыя землі абраблялі і ў значнай долі з яе выкарысталі розныя прышлыя з места дэклясыраваныя элемэнты, якія ў рэзультаце паніжэньня прамысловасьці і другіх прычынаў, змушаны былі перасяліцца з места ў вёску. Фактычна зямельная рэвалюцыя так неарганізавана праводзілася, што зямлю, хто атрымаў, а хто і не. Значная частка сялянскіх гаспадарак, пэўна, не атрымала і гэтага маленькага прыспору, астаўшыя пры старым сваім вузкім надзеле.

Большасьць сялянства ў Усходняй Беларусі ёсьць бядняцкае і серадняцкае. Зямельны голад па даўнейшаму жорстка гняце; які-ж выхад з гэтага цяжкага палажэньня?

Устанавіўшы мінімальную норму сялянскае гаспадаркі ад 4,6 дзес. да 6,9 дзес., у залежнасьці ад раёну, бальшавіцкі ўрад Усх. Бе-

*) Гэтая карэспандэнцыя А. Менчука зьмешчана ў месячніку „Рэвалюцыйная Расея“. Як надта цікавая, часткова падаецца ў „Сял. Ніве“.

# Пратэст беларускіх і украінскіх паслоу.

На паседжаньні адміністрацыйнай камісіі Сойму ў часе разгляду праектаў аб самаўрадавых законах, калі быў прыняты 58 артыкул, у якім гаворыцца, што валасным войтам і яго заступнікам можа быць толькі той, хто ўмее гаварыць і пісаць папольску, бяручы пад увагу што: гэтым самым артыкулам касуюцца для нацыянальных меншасьцяў усе самаўрадавыя законы, бо гэтым артыкулам даецца поўная воля старасьце, які будзе зацьвярджаць і экзаменаваць выбранага войта, а цераз гэта будуць надужыцьці, калі выбраная асоба на войта ня будзе падабацца п. старасьце. Пасол Ярэміч на знак пратэсту злажыў гэтакую заяву:

**„Дзеля таго, што сябры адміністрацыйнай камісіі як ад правіцы, таксама і ад лявіцы пагадзіліся ў прыняцьці 58 артыкулу, які выразна скіраваны проціў нацыянальных меншасьцяў, а таксама і дзеля таго, што і другія артыкулы ня меней крыўдзяць наш народ, я, ад імя Беларускага і Украінскага Пасольскага Клюбу горача пратэстую проці пагвалчэньня правоў нашага народу і на знак пратэсту пакідаю салю паседжаньняў і далей удзелу пры разглядзе праектаў аб самаўрадавых законах браць ня буду. Ярэміч".**

Гэтую прапазыцыю падпісаў Украінец пасол Любарскі, падобную-ж заяву злажыў прадстаўнік Жыдоўскага Клюбу пасол Унзлер.

Старшыня камісіі д-р Путэк зьвярнуўся пры гэтым да пасла Ярэміча з гэтакімі словамі: Калега, ведайце, што як выйдзеце з камісіі і ня будзеце прысутнымі, дык не атрымаеце пэнсіі! На што пасол Ярэміч адказаў: **„Калі адбіраеце ад нашага народу самаўрады, дык адбярыце і пэнсію мне (djety): але-ж гэтым не запужаеце"** і пакінуў паседжаньне.

---

ларусі прызнае не рацыянальным істнаваньне сялянскіх гаспадарак, якія маюць колькасьць зямлі ніжэй гэтае нормы. Але-ж гэтакіх гаспадарак лічыцца да 250 тысячаў; што з імі рабіць? Пастаноўлена надзяліць іх зямлёю. Але-ж лёгка гэта толькі гаварыць. Дзе-ж узяць свабодную зямлю?

Дзеля развязаньня гэтага цяжкага пытаньня ёсьць дзьве магчымасьці: перасяленьне ў іншыя раёны Радавага Саюзу, што ня можа даць важкіх рэзультатаў ці — прарабіць другую аграрную рэвалюцыю — правясьці мэліярацыю ўсяе няпрыгоднае зямлі. Бальшавікі прызначаюць яшчэ і трэйцюю магчымасьць — адрэзка зямлі ў вялікшых гаспадарак і прырэзка драбнейшым, але-ж гэта ня ёсьць выхад з палажэньня. Гэта ўнясе толькі непатрэбны і шкодны антагонізм у вёску, у асаблівасьці, калі ўзяць пад увагу, што тыя вялікшыя сялянскія гаспадаркі — працоўны, абрабляючыя свой надзел уласнымі сіламі абмежанавага аб'яднаньня — працоўнай сям'і. Ужо лепей было-б, каб яны зрабілі адрэзку зямлі ў рожнага роду дзяржаўных гаспадарак, гэта было-б у шмат разоў выгадней.

(Далей будзе).

---

## Зьезд польскіх асаднікаў Віленскага ваяводзтва.

3 і 4 сакавіка адбыўся зьезд польскіх асаднікаў Віленскай зямлі; на якім высьветлілася, што на тэрыторыі віленскага ваяводзтва істнуе 1104 асады, якія належаць да саюзу асаднікаў з агульнай лічбай 1100 сяброў.

Асаднікамі занята зямлі на тэрыторыі шасьці паветаў Віленскага ваяводзтва—31538 гэктараў у гэтакім парадку: у Браслаўскім павеце на 128 прыналежных да саюзу асаднікаў прыходзіцца 2775 гэктараў зямлі; у Ашмянскім павеце на 187 асаднікаў—6804 гэкт. зямлі; у Сьвянцянскім павеце на 63 асадн.—2875 гэкт. зямлі; у Віленска-Троцкім павеце на 466 асад.—4106 гэкт. зямлі і ў Вялейскім павеце на 282 асад.—7700 гэкт. зямлі.

Як вынікае з дакладаў, дык гаспадарчае палажэньне асаднікаў ёсьць надта (далікатна кажучы) скромнае. Усе дэлегаты гэтага зьезду цьвердзяць, што прычынай гэтаму ёсьць атсутнасьць крэдытаў, хаця на зьезьдзе высьнілася, што за месяц студзень і люты г. г. прызнаны крэдыты 46 асаднікам на агульную суму 45.550 злотых; у сваіх пастановах зьезд, не абяцаючы нічога на карысьць дзяржавы, дамагаецца рожнага роду палепшаньня жыцьця асаднікаў цераз дапамогу праўную і грашовую ад дзяржаўных уладаў.

---

## З жыцьця Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

### Паседжаньне Рады Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

На аснове §§ 22, 24, 26 і 27 Статуту Т-ва дня 24 сакавіка а 11 гадз. раніцай у памешканьні Інстытуту ў Вільні (Завальная 6—5) адбудзецца звычайнае паседжаньне Рады Т-ва Беларускі Інстытут Гаспадаркі і Культуры з наступным парадкам дня:

1) Справаздача Цэнтральнага Ўраду Інстытуту і Рэвізыйнае Камісіі.
2) Падзел гурткоў на аддзелы.
3) Зацьверджаньне Рэгуляміну Інстытуту.
4) Змены Статуту Т-ва.
5) Зацьверджаньне бюджэту на 1927 год.
6) Вольныя прапазыцыі.
7) Плян далейшай працы.
8) Бягучыя справы.
9) Выбары сяброў Цэнтральнага Ўраду і Рэвізыйнае Камісіі.

**Цэнтр. Урад Інстытуту.**

8.III. 1927 г.

### Да ведама Гурткоў Навагрудзкага Аддзелу.

Гэтым паведамляем, што згодна з § 11 Рэгуляміну Інстытуту дня 20 г. сакавіка а гадзіне 12 дня ў Навагрудку пачнецца сабраньне дэлегатаў Навагрудзкага Аддзелу Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Парадак дня:

1. Адчыненьне сабраньня.
2. Справаздача Ураду Навагрудзкага Аддзелу.
3. Ад далейшай працы Інстытуту.
4. Вольныя прапазыцыі.
5. Выбару новага ўраду Аддзелу.

Усім гурткам Навагрудзкага Аддзелу зьвяртаем увагу на § 11 Рэгуляміну і просім прытарнавацца да яго (паступіць згодна з гэтым параграфам).

**Урад Навагрудзкага Аддзелу.**

*Ніколі не зністажай газэты, прачытаўшы дай яе суседу.*

---

# „Тыдзень трэзвасьці".

„Выпіў Куба да Якуба
поўным кубкам" і г. д....

Я старэнькі векам. Бачыў шмат чаго ў сваім жыцьці. (Натуральна, добрага—дык мала...) Ну, калі кажу шмат—дык шмат! На маё „няшчасьце"—я радзіўся Беларусам (тут дык я не вінават...) А калі Беларус—то ў нашым сучасным жыцьці ў Заходняй палаці Краю знача ох, шмат чаго і нічога! — „Як-жа гэта? Беларусы маюць і вочы і ўсё такое... — гаварыла жонка нашага начальніка, прыехаўшая з Пазнанскага. — Чаму яны глядзяць і так мала бачаць?...

Так мая панічка! Мы старыя людзі бачым, разумеем і казаць кажам—ды ўжо ўсё збрыдла. Хоць лопні—цябе ня слухаюць. „Хам у лапцях—яго слухаць! Скаціна безгалосая"—ды і другія „далікатнасьці" агульна чалавечыя чуем. А „далікатнасьці палітычныя"! О, хо! хо... Пачынаюцца ад бальшавіка ды ў гару... „Маўчаць!"—Каманда.

Ды аб гэтым я другім разам напішу да свайго П. Рэдактара. Цяпер-жа апішу як у нас гавелі... тцьфу! Тразьвелі! Нейкі значыцца быў тут „тыдзень" такі... (ня ведаю ці толькі тут, ці яшчэ дзе быў?) Пашоў я ў мястэчка зарабіць крыху на соль. Можа дровы каму пасячы можа што іншае... Прыходжу да аднэй пані дужа багатай (наезнай).

— Ага, добра — кажа. — Пасячыцё ўсе гэтыя дровы, што на двары.

— Добра, мая панічка.

— А колька-ж возьміце за работу?—пытае.

— Ну што-ж, панічка. За дзень не пашчапаеш, шмат дроў—трэ' тры залатовачкі...

— Што?! Тры! На гарэлку?!

— Ды не на гарэлку, — кажу, панічка, а на соль...

— А ці ведаеш „człowiecze" (дзякуй і за гэта слова), што гарэлкі ня можна піць. Цяпер ёсьць нават такі „тыдзень" трэзвасьці: каб гарэлкі ня піць, такая цяпер прапаганда і г. д. Вось тут у маім доме і камітэт такі ёсьць...

— Ды мне не на гарэл...

— Злоты хочаш за работу?

— Крыўдна, панічка.. За дзень не пасячэш...

— Ну, як сабе хочаш!

Падумаў я крыху—ды стаў сячы... трэ' зарабіць—думаю... нічога... Папрацаваў я цэлы дзянёчак (нават есьці не дала) ды і ня кончыў усіх дроў. Пашоў нанач да хаты. Бачу на дарозе стаяць знаёмыя мне хурманкі каля карчмы. Пад'еду—думаю. Аж выходзе сусед мой.

— Зайдзі, брацішку—кажа—сюды. Зара паедзем.

Уваходжу. Сядзяць усе суседзі. Сялядцы з хлебам ядуць, а гарэлкі ня відаць... Нешта, нейкае—думаю... Чаму-ж гэта так? Аж урэшце чую, як карчмар голасна кажа:

— Гарэлкі сёньня няма! Цяпер „тыдзень трэзвасьці" (бач і ён знае). Тут вялікі камітэт ёсьць, кожны дзень паседжаньні—дык забралі ў мяне пасьледнюю гарэлку. Заўтра прывязуць.

А дзякуй Богу—думаю, хоць раз у год у карчме дзень трэзвасьці завёўся, а то тыдзень... Пасядзеў я з суседзямі, пагутарыў, узяў на павер крыху солі (панічка мая яшчэ мне не заплаціла) дый паехалі да хаты.

Уяжджаем мы ўжо ў вёску. Бачым народу ля нейкага возу—цьма! Так—сабе думаю.— Ці ня прапаганда тут „трэзвасьці" як мне гэная пані казала? Ды што гэта? Знаёмы з мястэчка. Сьляпы Ёсель сядзіць на возе і бутэльку ў руках трымае.

— Амэрыканская гарэлка—крычыць—манапольку ў мястэчку выпілі. Цяпер там „тыдзень трэзвасьці"—(а бадай цябе—і ён знае).

Паглядзелі сяляне некатарыя—ды сплёвываючы адходзяць; маладзёж ля возу круціцца... ды відаць нешта не густуе. Сталі і мы.

— Э, газоўка! (дэнатурат). Хай яна галавой паложа!—сусед мой кажа. Ды што ты Ёсель ляк ад коркаў паадздіраў?! Відаць адкарковываў ды вады даліваў.

— Хохан ты—адказывае.—Хочаш за злоты бутэльку спірту мець? Ды я вады не даліваў! (тут ён пачаў клясьціся). Я толька прачысьціў каб прыятней піць было.—З гэтым мы і паехалі. Купляли—як кажуць некатарыя. Ну, што-ж? Сама ў вёску рухомая карчма едзе, ды яшчэ з таннай „амэрыканскай" гарэлкай... Ідуць некатарыя на той сьвет праз яе, ох! ідуць...

На другі дзень, ранічкай—пашоў я работу канчаць. Кончыў парой і іду па заплату.

— Буйна пасек!—кажа пані.—За гэтакаю работу і злотага шкада даць.

— Ды, панічка—кажу—чуць ня два дні сек, ды-ж мне на со...

— Маеш злоты! Толька не прапі, бо ўсе вы п'яніцы!...

— Ды, мая панічка, дзе мне да гарэлкі: солі няма, дзеці галодныя... ды і гарэлкі ў мястэчку, кажуць, няма; нейкі тыдзень цяпер, кажуць, такі...

Разьвітаўся я ды вышаў. Гляджу, у сенях бутэлькі ад гарэлкі парожнія валяюцца. Ды шмат іх. Вярнуўся ды кажу:

— Панічка мая! Дайце мне з адну бутэлячку парожняю! Прадам ды дзецям гасьцінчык куплю: мо' булачку, мо' што...

— Забяры іх сабе—кажа.

Я давай зьбіраць бутэлькі. Ня было ў што, скінаў кажух (мароз быў, а тут адна кашуля дый тая падзёртая) ды ў кажух. Бягом да карчмы, а мароз плечы кусае!... Тут лічыць. А браточкі 93 бутэлькі. Заплаціў мне карчмар па 5 грошаў за штуку. Цяпер я аджыў! Купіў пару булак, вялізарнаю булку хлеба (бо сама бульба бяз зьмены крэпка надаела) ды падскаківаючы—дамоў! Якая была радасьць дзяцей—гэта мне цяжка апісаць. Елі ды добры смак хвалілі. А я ім адно кажу: маліця Бога, каб часьцей былі гэтыя „тыдні трэзвасьці" дык тады мо' яшчэ раз такі вам гасьцінец прынясу. Ды ня ведаю—ці не раз толькі гэта ў год бывае? Будзьце ласкавы, П. Рэдактар, мне адпісаць—ці раз у год, ці часьцей можна яго спадзявацца?...

**С....а.**

## Памяці Антона Лявіцкага
### (Ядвігіна Ш.)

Пяць гадоў таму назад перастала біцца вялікае сэрца беларускага мастака слова Антона Лявіцкага, які ў беларускай літэратуры ведамы як Ядвігін Ш.

Антон Лявіцкі належаў да тэй невялічкай лічбовa, але магутнай духам, групы беларускіх працаўнікоў на нацыянальным грунце, якія ня гледзячы на цяжкія абставіны і жорсткія ўмовы палітычнага беларускага жыцьця пачалі раскапываць беларускую Помпэю, пачалі будаваць новы гмах Беларускага Адраджэньня і паказалі шлях беларускаму мастацтву на Парнас.

Нямнога ўжо асталося яго спаборнікаў, пякотнае жыцьцё абвадзіўшы па ўсіх цярпеньнях, муках і нягодах кінула іх у супакойныя ахоўы сьмерці... пакінуўшы нам іх вялікія запавядзі: любіць родны народ, родную старонку і адначаным шляхам ісьці далей да сонца, да сьветлай і шчасьлівай будучыны цераз цяжкую і пакутную сучаснасьць.

Але, на вялікі жаль, з лічбы тых нямногіх пачынальнікаў, якія яшчэ жывуць, некатарыя зьмянілі тым запавядзям і панясьлі родны сьцяг, паслухмянныя варожым нам волатам, на спатканьне і прывітаньне чужацкага панаваньня, якое мучыць і выкарыстае нас і фізычна і духова.

Табе-ж датрымаўшаму да канчатку наш нацыянальны сьцяг на ўласным грунце—вялікая пашана! Табе, дарагі Антон Лявіцкі, аддаём мы чэсьць, і прысягаем у гэтыя пятыя ўгодкі тваёго пераходу ў новы сьвет, што мы твае спадкабернікі, будзем вернымі тваім запаведзям, каб спаткаца з табою ў новым жыцьці з чыстым сумленьнем, спакойнаю душою і не выклікаць тваёго дакору!

*Ст. Ясны.*

---

## Зьезд землябробскіх гурткоу віленскага ваяводзтва.

4 і 5 сакавіка ў Вільні адбыўся зьезд землябробскіх гурткоў (польскае арганізацыі) Віленскага ваяводзтва. Мінаючы рожныя прывітаньні і другія цэрэмоніялы гэтага зьезду—прыпынімся на прамове дырэктара віленскага аддзелу дзяржаўнага землябробскага банку.

Паміж іншым п. Мацулевіч зазначыў, што: „Віленшчына ёсьць тэй старонкай, якая найболей пацярпела. Зьнішчыла яе ня толькі вайна але-ж і неўраджай які адведаў яе ў апошніх гадох. Цэнтральныя ўлады зусім мала цікавіліся нашаю старонкаю, якая некарысталася дзяржаўнаю запамогаю, у тэй меры ў якой заслугуе“.

Апошнімі часамі, згодна словаў п. Мацулевіча, быццам у гэтым кірунку наступіла направа, быццам наступіла зразуменьне значэньня землябробства, дык далей гаворачы аб гэтым п. Мацулевіч, зазначыў, што: „знашліся ўжо крэдыты для землябробаў, якія ў апошніх часох (знача крэдыты) шырокім ручаём ідуць на Віленшчыну. Дык на будучыну на гэта трэба глядзець аптымістычна“ (з надзеяй на палепшаньне).

Але-ж гэты аптымізм разьбіваецца, калі прыточым зацемку з якіх крэдытаў Віленшчына скарыстала ў 1926 годзе.

У лет. годзе міністэрства землябробства выдала Віленшчыне крэдытаў: на сеўную запамогу 1.500.000 зл., на штучныя навозы 420.000 зл., на адбудову (камітэты адбудовы пры старостах) 1.297.000 зл., на камасацыю (у тым ліку мэліярацыю) на агульную суму 1.628.000 зл.“, але-ж рэкорд пабілі асаднікі, бо на іх самых выдана за 1926 год аж 1176 пазыкаў на суму 747.000 зл. для вайсковых асаднікаў і на суму 647.000 зл. для цывільных асаднікаў, гэта знача толькі, колькі на сеўную запамогу ўсяго віленскага сялянства. Дык пры гэтакіх далэйшых глядзець аптымістычна ня прыходзіцца і тэй зразумеласьці значэньня землябробства аб якім казаў п. Мацулевіч мы Беларусы ня бачым, бо цяпер лёс усьмехаецца ласкава толькі асаднікам. Аб гэтым гавораць фактычныя цыфры вышэй прыведзеныя.

Зьезд закончыўся пастановамі, якімі дамагаецца ад ураду вызначэньня крэдытаў на землябробскую коопэрацыю ў мэтах направы землябробства. Паміж іншым гаворыцца і аб тым, каб надзяліць кожнага селяніна гіпотэкаю (дакумэнтальнымі даводамі аб праве ўласнасьці да таго „шнурка“ зямлі які ў яго ёсьць), каб селянін мог залажыць у банк гэты шнурок і гэтакім парадкам атрымаць грашавую пазыку на запамогу. Дык ува ўсім гэтым мала радасьці!... Без пашырэньня гэтага шнурка, ніякай направы ня можа быць.

### 25.III. 1918.

Як на нашай Русі Белай
Сталі звоны моцна біць
Й аб пабедзі думы сьмелай
Сталі звонка гаварыць:
Задрыжэлі сёлы й вёскі,
Задрыжэў нат слаўны Менск,
Задрыжэлі ўсе палоскі
Ад Асоўца пад Смаленск.
Едзе Люд на Веча Славы,
Едзе Люд вітаць байцоў
І фундамант для Дзяржавы
Сьвенціць звычаем айцоў.
Загудзелі звоны ў вежах,
Распусьціўся ў сэрцах Май
І ў абшырных нашых межах
Загрымела: «Вольны Край!»..
Як на нашай Русі Белай
Нахлынула ўража раць;
З табуна арды зьдзічэлай
Ўчулась «біць і рабаваць!»...
Занямелі сёлы й вёскі,
Занямеў нат слаўны Менск,
Занямелі ўсе палоскі
Ад Асоўца пад Смаленск.
Млее бацька каля печы,
У вастрогах гіне сын,
Змоўк у вежы звон аб Вечы,
Зноў над намі панскі чын.

---

# НАВІНЫ.

**— Беларуская лекцыя.** У нядзелю, 6-га сакавіка ў памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры адбылася лекцыя, аб будаўніцтве на Беларусі, якую з паказальнымі сьветавымі абразкамі прачытаў інж. Дубейкоўскі. Далейшы працяг лекцыі будзе прачытаны інж. Дубейкоўскім у памешканьні Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры ў нядзелю 13 сакавіка.

**— Беларуская школьная справа.** Віленская школьная куратoрыя накіравалася да апрацаваньня і выданьня школьных падручнікаў у беларускай мове. Два тыдні таму назад была склікана спэцыяльная камісія ў гэтай справе, якая засядала 6 дзён. Цяпер ужо спэцыялістыя прыступілі да тлумачэньня з польскай мовы на беларускую некатарых падручнікаў.

**— Справа школьнага плебісцыту на абшары Віленшчыны.** У пятніцу 4.III. віленскі школьны куратар запрасіў да сябе прадстаўнікоў прэсы. У размове з імі была парушана справа школьнага плебісцыту. Куратар высьвятліў, што справа гэтая зьяўляецца цяпер актуальнай (дзейнай), але вынікаў плебісцыту можна будзе чакаць не раней, чым у м. траўні. Як ужо і цяпер зазначылася ў паветах Дзісненскім, Вялейскім і Маладэчанскім быццам зьвіцца да 30 школаў утраквістычных, а можа некалькі і беларускіх.

**— Новая канфіската.** 4.III. віленскія адміністрацыйныя ўлады канфіскавалі № 1 беларускай газэты „Наша Воля“ за арт. „Увааскрэшэньне палітыкі мін. Грабскага“. Рэдактара цягнуць да адказнасьці па арт. 263 К. К.

**— Сьмерць Арцыбашава.** 3.III у Варшаве, у вайсковым госпіталі памёр у бязпрытомнасьці вядомы расейскі пісьменьнік Міхал Арцыбашаў.

**— Забойства.** Некалькі дзён таму назад у вёсцы Крынаўка Навагрудзкага павету забіты Аксенці і Алёна Глудковы.

**— Дрэнныя справы.** У вёсцы Рацэвічы, Войстамскай воласьці на каталіцкія запусты атруціліся дэнатураваным сьпіртам Дамінік Найгіч і Цыпрыян Андрэйўскі.

У вёсцы Сярэдня, Сьвянцянскага павету ў жыхара Ст. Януша атруціліся два госьці, а сам гаспадар у цяжкім палажэньні дастаўся да госпіталя.

**— Выстаўка пчалярскіх вытвараў.** У чэрвені г. г. ў Празе Чэскай адбудзецца зьезд славянскіх пчаляроў і пры ім выстаўка пчалярскіх вытвараў, вульлёў, рожных прыладаў, літэратуры і інш. Вельмі пажадана было-б каб і Беларусы былі прадстаўлены калі ні на зьезьдзе дык хоць на выстаўцы. Бліжэйшыя інфармацыі можна дастаць ад пчалярскага гуртка ў Празе. Карэспандэнцыю можна пасылаць па гэтакаму адрэсу: **Michal Guzowsky. Praha II. Na Slupi, Studentsky domov.**

# З жыцьця пад Польшчай.

### Матывы прысуду над паслом Ваявудзкім.

Праца пасла Ваявудзкага, як давераннай асобы нацыянальнага аддзелу, зазначалася складаньнем пісьменых даносаў, а таксама і вусных інформацыяў. Паказаньні сьведкі Сьвяневіча ўстанаўліваюць шматлічбовыя рэфэраты для пасла Ваявудзкага ў 1923 і на пачатку 1924 года пісаў ён, Сьвяневіч, за плату. Рэфэратаў пісаных рукою пасла Ваявудзкага суд ня бачыў. Згодна заявы самага пасла Ваявудзкага, яго рэфэраты перапісываліся ў II аддзеле, а арыгіналы зьвярталіся яму. Суд меў, пры разглядзе справы, рэфэраты толькі, пісаныя рукою Сьвяневіча з апошніх месяцаў 1923 году, якія былі прадстаўляны нацыянальнаму аддзелу паслом Ваявудзкім.

Тыя рэфэраты маюць агульна-інфармацыйны характар аб палажэньні беларускае справы. Некатарыя з іх зьмяшчаюць, аднак-жа ўвагі, якія інфармуюць урад аб сакрэтных матывах актуальнай палітыкі беларускага клюбу (у школьных справах); другія выдаюць псэўдонімы беларускіх пісьменьнікаў, а таксама даносяць аб тым, што робяць беларускія студэнты і эміграны ў Чэхаславакіі. Па прадстаўленьні рэфэрату п. Сьвяневіча аб Празе, дзе пісана аб 40 беларускіх саколах, якія гатовіліся да будучай барацьбы за незалежнасьць, пасол Ваявудзкі заявіў, што таго рэфэрату перад даручэньнем яго II аддзелу ня чытаў, бо каб прачытаў, дык пэўна што зьнішчы-бы.

Адзін з рэфэратаў аб „Магчымасьці камуністычнай рэволюцыі ў Польшчы“ (пяра Сьвяневіча) быў нават тэмаю дыскусіі сярод прыяцялёў п. Ваявудзкага.

Самым цікавым дакумантам які меў даказаць, што пасол Ваявудзкі вінаваціць сваіх калегаў (г. з. паслоў) ёсьць прадстаўленае суду панам віцэ-прэм'ерам Бартлем пісьмо (пісанае на машыны: „характарыстыка паслоў і сэнатараў“) з часоў безпасярэдня па выбарах 1922 г., якое зьмяшчае шмат інфармацыяў, якія мелі характар вінавачаньня некалькіх беларускіх паслоў і сэнатараў у праступнасьці перад уладамі.

Суд ня мог з паказаньняў сьведкаў сьцвярдзіць, ці ўсё тое пісьмо аб беларускіх паслах і сэнатарах апіраецца па інфармацыях пасла Ваявудзкага, сам п. Ваявудзкі заявіў, што толькі некаторыя характарыстыкі паслоў апіраюцца на яго інфармацыях, але ў характарыстыках яго няма ніякага факту вінавачаньня. Праўда, б. афіцэр II аддзелу пан Кульвец дапускае што акрамя характарыстыкаў паслоў Барана і Якавюка, іншыя характарыстыкі паходзяць ад другой рукі, але-ж і ён (Кульвец) дакладна справу ня ведае і што толькі маёр Чарноцкі мог-бы паказаць нешта запраўднае але-ж маёр Чарноцкі ўжо памёр.

Пасол Ваявудзкі атрымоўваў у 1923 і у студзені 1924 года ад афіцэраў нацыянальнага аддзелу грошы чэскімі каронамі, пад правізарычныя распіскі з наступным разрахаваньнем—распіскамі тых асобаў, якім тыя грошы меліся выплачывацца. Суд меў перад сабою распіскі з лістападу і сьнежня 1923 г. і студзеня 1924 г. З заяваў пасла Ваявудзкага, Сьвяневіча і афіцэраў II аддзелу вынікае, што пасол Ваявудзкі браў грошы ад нацыянальнага аддзелу, амаль што ў працягу ўсяго 1923 году. Правізарычныя распіскі падпісываліся паслом Ваявудзкім, згодна яго заяваў, — словамі: „А. Корчак“.

Разрахунковыя распіскі падпісаны фальшывымі прозьвішчамі. Гэтак напр. Сьвяневіч падпісваўся фальшывым прозьвішчам „С. Карчынскі“.

Іншых асобаў, якія атрымоўвалі ад яго (Ваявудзкага) грошы і выдавалі распіскі, пасол Ваявудзкі выдаць не хацеў хоць з паказаньняў суда, а таксама і пасла Хамінскага вынікае, што побач са Сьвяневічам існаваў яшчэ адзін платны інфарматар. Аб 8-мі распісках з лістападу і сьнежня 23 г. пасол Ваявудзкі паясьняе, што дзьве азначаюць грашавую суму, якая выдана на палітычную арганізацыю ў Вільні, якою быў крэсавы гурток „Вызваленьня“. Аб распісках са студзеня 1924 г. сьцьвярдзіў, што толькі малую частку тых грошаў даў сваім інфарматарам, а рэшту даў на палітычную акцыю крэсавага гуртка „Вызваленьня“.

З пасярод платных інфарматараў п. Ваявудзкага выкрыўся толькі пан Сьвяневіч.

Іншых прозьвішчаў, ані п. Ваявудзкі, ані афіцэры II аддзелу Г. Ш. Суду ня выдалі.

---

*Усіх падпішчыкаў просім прыслаць належныя за газэту грошы.*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Сталін ня верыць у магчымасьць вайны.

Савецкая агенцыя ТАСС даносіць, што ў Маскве выступаючы на перадвыбарным сабраньні Сталін адказваючы на запытаньне зазначыў, што ня верыць у магчымасьць вайны вясною, ці ўвосень. Хоць небясьпека вайны ёсьць, але-ж у гэтым годзе вайны ня будзе, бо ворагі Радавага Саюзу не прыгатаваліся і баяцца яе вынікаў.

### Турэцка-расейскія гандлёвыя перагаворы.

Перагаворы, якія вяліся праз нейкі доўгі час у справе гандлёвага дагавору паміж Турцыяй і Рад. Расеяй закончыліся. Асягнута поўнае паразуменьне па ўсіх пунктах.

### Расейска-эстонскія перагаворы.

2 г. сакавіка распачаліся перагаворы паміж Эстоніяй і Рад. Расеяй у справах дагавору аб ненападаньні.

### Ангельскі бюджэт на паветраны флот.

На бюджэтны 1927—28 год Англія вызначыла 15 мільёнаў фунтаў штэрлінгаў на паветраны флот. Як вынікае з далучанага да бюджэту мэморыялу, дык колькасьць чынных самалетаў у сучаснасьці раўняецца сіле 63 эскадраў.

### Віхор.

Да Бюро Рэйтэра ў Лёндан даходзяць весткі з высьпы Мадагаскару, што там страшэннай сілы віхор зьнішчыў порт Тамантаў затапіўшы пяць караблёў.

### Літоўска-расейскі дагавор.

Літоўска-расейскі дагавор які быў падпісаны 28 верасьня 1926 году аб ненападаньні, Літва прадставіла ў сэкрэтарыят Лігі Народаў на рэгістрацыю.

### Выпадкі ў Кітаі.

Як даносіць „Temps" з Шанхаю, дык прадстаўнікі кантонскага ўраду і прадстаўнік Англіі падпісалі ўмову ў справе канцэсіяў у Кін-Кіангу. Згодна з гэтай умовай даўнейшая ангельская канцэсія і місія касуюцца. За гэта Кітайцы маюць выплаціць Ангельцам 40 тысяч даляраў і кітайская паліцыя павінна поўніць там абавязкі бясьпечнасьці.

Згодна вестак Рэйтра з Шанхаю, войска кантонскае арміі энэргічна імкнецца да калеі Шанхай-Нанкін, якая зьяўляецца галоўнаю калеяй у камунікацыі Чанг-Су-Фанга. Галоўныя атакі пакіраваны на Су-Чу, адлегласьці 50 анг. міляў ад Шанхаю.

# Беларускія пчаляры!

У чэрвеню г. г. адбудзецца зьезд у Празе Чэскай „Славянскіх Пчаляроў". Пажадана было-б, каб беларускія пчаляры былі прысутныя на ім. Як ведама беларускае пчалярства вельмі старое. У сярэдніх вякох находзімо гандлёвыя дагаворы з чужымі дзяржавамі аб гандлю мёдам і воскам. Перад вайной беларускае пчалярства таксама займала неапошняе месца ў Эўропе. Праўда, вайна зьнішчыла зусім нашы пчолы, але пчалярства хутка адрадзілася і вельмі шпарка ідзе наперад. Як і ўсякая новая гаспадарка, пчалярства патрабуе прафэсыянальнае арганізацыі, асабліва-ж патрэба яе адчуваецца пры недахваце мёду і воску. Хто мае колькі дзесяткаў вульлеў, той можа свае вытворы завясьці ў места, але гаспадар, маючы два-тры вульлі, няможа сабе на гэта пазволіць. Тое самае і з новымі прыладамі як цэнтрафуга і інш. Вось дзеля гэтага патрэбна было-б каб нашы пчаляры закладалі свае гурткі, і мэтаю якіх было-б: павялічэньне вытварства мёду, а таксама забясьпечаньня пчаляроў патрэбнымі прыладамі і літэратураю. Гурткі маглі-б аб'яднацца ў адзіную Беларускую Пчалярскую Супалку, якая добра бараніла інтарэсы нашых пчаляроў. Такая супалка магла-б мець вялікі ўплыў на заграпічным пчалярскім рынку, бо кажу, што мы займаем не апошняе месца па пчалярству ў Эўропе. Нашы мядовыя вытвары пад назовам „Літоўскі крупнік" ёсьць знанымі ўсей Эўропе; сьвечкі з воску беларускіх і ўкраінскіх пчолаў гараць чуць не па ўсіх царквах і касьцёлах. Дык вось, беларускія пчаляры, арганізуйцеся, каб беларускі голас быў чутны ў Празе на пчалярскім зьездзе. Даволі спаць. Чаго ня можа зрабіць адзін, грамада зробіць лёгка. Вучыцеся ад пчолаў.

*Пчаляр.*

# Да нас пішуць.

### Як праводзіцца сэквэстрацыя?

З в. Венцэвічы, гм. Сьвірскай.

Войт гміны Сьвірскай Язэп Вайткевіч прыехаў разам з сэквэстратарам Шаўдынскім у вёску Венцэвічы і жадаў ад сялян выплаты залежных падаткаў. У гэтай мэце сэквэстратар пакіраваўся да тутэйшага селяніна Антося Пяркоўскага. Падаткі, як цьвердзіць апошні, былі ў яго ўсе выплачаны. Не бяручы гэтага пад увагу сэквэстратар жадаў залежных аплатаў не даючы пры гэтым ніякага тлумачэньня. Праз некалькі гадзін прышоў да Пяркоўскага і войт, які быў ужо падпіўшы (заходзіўся ён да тутэйшай вучыцелькі). Ён таксама націскаў Пяркоўскага да заплаты падатку, калі селянін сказаў, што ён ня маець грошы дык зажадалі ад яго якогакольвек інвэнтара. Але Пяркоўскі таксама адказаўся ім гэта выдаць. Так войт з сэквэстратарам і ад'ехалі.

На другі дзень, калі ў доме Пяркоўскага ня было самага гаспадара, зноў зьявіўся войт з сэквэстратарам, таксама падпіўшы ў вучыцелькі, увайшоў самаўпраўна з крыкам у дом і зажадаў падаткаў.

У доме Пяркоўскага знаходзілася толькі адна кабеціна, яго сястра. Войт нічога не зважаючы ўламаўся да скрыні і шафы, і забраў кажух. У гэтым часе, жаліцца Пяркоўскі, што згінулі 100 рублёў золатам.

Сястра ягоная нічога не магла сабе зарадзіць, бо раз, што была кабета, а другое, што пара была ўжо позная, 10 — 11 гадзіна ў ночы. Калі потым надайшлі ў дом суседзі і яна стала дамагацца звароту забранага кажуха, войт з сэквэстратарам кінуліся на яе і зьвязалі, моцна прыгэтым пабіўшы кабету. Вярнуўшыся ў сваю хату і ўвідзеў я што там рабілася, зьвярнуўся з запытаньнем да войта, што ўсё гэта знача. Не даючы мне ніякага адказу апошні схапіў мяне за грудзі, парваўшы кашулю і жадаў далей аплаты падаткаў.

*Венцковіч.*

### Сынкі паважных бацькоў.

Ёсьць у беларускім куточку вёска Кумельшына, Даўгінаўскай воласьці. Людзі здаецца, як людзі, а можа яшчэ на вока і віднейшыя ад іншых бо ўсе годны толькі ў гвардыю, а розуму дык замала. Куды толькі яны ня сунуцца, усюды іх ганяюць як благіх. Чапельшчыне, прыходзіцца цярпець усе напасьці ад гэтых кумельшчан; ня можа яна абараніцца ад іх.

Здарылася 15 лютага ў Чапельшчыне вясельле. У вечары ўсе Кумельскіе хлопцы і нядаўна жанатые з кіямі і палкамі зьявіліся ў Чапельшчыну знарокам каго пабіць, а музыку з вясельля сілком забраць у сваю вёску. Да гаспадара дзе былі скокі, зьвярнуліся з лаянкай. Чапельшчане заціснуліся ў куток і маўчалі. Але тутачка зьявіліся кастычане і справа пашла інакш. Паўстала бойка, кумельшчане адступілі. У бойках забітых няма, а раненых ёсьць з абодвых бакоў.

Вось, браточкі, да чаго мы дайшлі, дзе губляем свае капелькі крыві напрасна. Ня слухайце кумельшчане сваіх павадыроў на благое, а лепш займіцеся карыснай працай, прасьветай сваей цемнаты!

*Квактун.*

### Чужаземцы з Белавежы.

Уелася нам у жыцьцё адна крыўда, гэта ўласная нясьведамасьць таго, што беларускае, бо мы сядзім у цемры: бяз школаў, бібліятэкаў, чытальняў і г. д. Вінавата гэтаму, часткова, наша інтэлігенцыя, бо калі хто з нас хоць раз папаўшы ў чужую старонку ды яшчэ ў панкі або, як часьцей бывае толькі ў панскія лёкаі, дык ужо выракаецца, чураецца і стыдаецца прызнавацца, як да сваей мовы, так да свайго народу і да ўсей бацькаўшчыны а мо' і да самаго сябе. Ён ужо з няўвагай глядзіць на сваю вёску і на сваіх родных.

Меў я адзін раз гэткае здарэньне. На рабоце ў пільні пазнаёміўся я з адным „расейцам" як ён сябе называў, ды яшчэ дабаўляў „петраградцам". Ува ўсім мы з ім згаджаліся, толькі ў адным не маглі сайсьціся гэта ў пытаньні аб нашай мове. Беларускую мову называў ён мужыцкай гаворкай, а ўсе хто чуець сябе болей-меней культурным чалавекам, павінен, як ён казаў, гаварыць парасейску. Ну што-ж, калі ён расеец, дык ня знаець нашага жыцьця, а разам з гэтым і мовы, тут нічога дзіўнага няма. Ажно вось рэч асьвятлілася іначай.

Праз нейкі час надумаўся гэты „маскаль" „путешествовать" па някультурным нашым краі ды паглядзець, як там „мужыкі" жывуць. Выходзячы з дому прырок ён праз дні два-тры вярнуцца назад. Але як пашоў дык і ні слуху, ні духу прапаў чужанін ды і толькі. Што рабіць, замальдаваць у паліцыю ці што? Ды неяк страшна, каб апошняя чагось не прычапілася да мяне. Я пастанавіў напісаць войтам тых воласьцяў у якія ён пакіраваўся і пайсьці, можа, думаю, дзе небудзь знайдзіцца жывы ці няжывы. І вось, найшоўся гэны быццам расеяц, дзякуючы сэкрэтару Ліпёскай воласьці. Ды яшчэ як, у ягонай вёспы, у Аранчычах, дзе жылі яго бацькі і дзяды і дзе сам ён радзіўся. Прачытаў я ліст сэкрэтароў і стаяў як аслупелы нічога ня мог сказаць. Дык вось якія ў нас бываюць чужаземцы і як нашыя Беларусы выракаюцца, па сваю ганьбу, усяго таго, што ёсьць ім роднае. Адно добра, што такія асобы ужо рэдка здараюцца.

*Беларус.*

# НАШАЯ ПОШТА.

**Гардзею А.:** Друкі паслалі.

**П. Долі:** Карэспандэнцыю і вершы атрымалі, можа нешта-небудзь надрукуем.

**С. Пяюну:** Прысланае атрымалі. Камэдыю магчыма будзем друкаваць.

Юрчыку А., Яркоўцу Ф., Сушко М., Панкевічу Ул. і інш., Малочку П., Цісілевічу, Потрысю В., Горну, Макарэвічу С. — пробны нумар паслалі.

Гардзею А., Бушмічу М., Ліштвану, Завадзкаму Б., Антопкіну Д., Майсейчыку Ул. — газэту пасылаем.

**Дасталі ад:**

Карасэвіча — 3 зл.

Арцукевіча К., Шыдлоўскага С., Лаўрэшука М., Крэчкі Э., кс. Шчэнсновіча М., Венько Ем. — па 2 зл.

Мэлеша А. — 1 зл. 50 гр.

# БІРЖА.

Вільня, 7.III. 1927 г.

ВАЛЮТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| Даляры . . . . . . . | $8.92\frac{1}{2}$—$8.93\frac{1}{2}$ | зл. |
| Рублі зал. (10 р.) . . . . | 47.30—47.35 | „ |

ЗБОЖЖА, ЗЕМЛЯРОБ. І ІНШ. ПРАДУКТЫ:

Вільня, 8.III. 1927 г.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта за 100 кг. (6 пуд.) . . | 43.00—44.00 | зл. |
| Авёс „ „ . . | 39.00—40.00 | „ |
| Ячмень брав. „ . . | 39.00—40.00 | „ |
| „ на кашу „ . . | 00.00—00.00 | „ |
| Пшаніца „ . . | 50.00—51.00 | „ |
| Сланіна тутэйшая І гат. 1 кг. . | 4.00—4.20 | „ |
| Клустасьць свінная „ . . . | 4.50—4.70 | „ |
| Масла несал. за 1 кг. . . . . | 7.00—7.60 | „ |
| „ салён. . . . . . . . | 5.50—6.00 | „ |
| Сьмятана за 1 літр . . . . . . | 2.20—2.40 | „ |
| Тварог „ . . . . . . | 1.00—1.50 | „ |
| Яйкі за 1 дзес. . . . . . . . | 2.40—2.50 | „ |

# АБВЕСТКІ:

Ініцыятыўная група па арганізацыі сьвяткаваньня 9-х угодкаў абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі гэтым даводзіць да ведама беларускага грамадзянства, што хто хоча прыняць удзел у сьвяткаваньні, павінен загадзя запісацца ў Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры (Завальная 6—5) у гр. Г. Карузанкі (штодня ад гадзіны 10—3). Складка выносіць для мужчын 10 зл., для кабет 8 зл., студэнты плацяць палавіну.



Рэдактар і выдавец К. Мацкевіч.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.